У нумары: Літаратурная старонка | У лагеры смерці | Махнатаўскія кантрасты

Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 35 (290) | ГОД VII | 2 ВЕРАСНЯ 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР

# За парту, за кнігу, сябры!

Надышоў верасень. Скончылася лета з яго вясёлымі канікуламі, лагерным жыццём, паходамі і экскурсіямі. За лета многім з Вас давялося добра папрацаваць, наліліся мускулы і плечы пакрыліся загарам. Цяпер настаў час зноў брацца за вучобу. Вы ўвайшлі ў чыстыя, адсвежаныя класы і адразу адчулі, што гэта ўжо не мінулы год, што Вы ўжо на год старэйшыя і што Вас чакае новая, больш складаная праца. Новы навучальны год прынясе Вам больш цяжкасцей, будзе патрабаваць больш напорыстай працы, але з ёю разам прынясе больш радасці і надзей.

За парту і кнігу, сябры! За навуку! Вас чакаюць новыя веды, новыя цікавыя справы, новы сур'ёзны крок у жыццё. Няхай Вам сябрамі ў гэтым будуць ахвота, стараннасць, натхненне ў працы, а памочнікамі — кнігі.

За працу! А паспяховая карысная праца прыносіць заўсёды задавальненне. Дае адчуванне пачуцця ўласнай годнасці і патрэбнасці грамадству, адчуванне сябе сапраўдным членам нашага грамадства.

На парозе гэтых адказных задач, у дзень пачатку новага навучальнага года вітаем Вас, нашыя маладыя чытачы, жадаем спаўнення ўсіх вашых мар і глыбока верым, што яны споўняцца. Бо той, хто моцна чаго-небудзь жадае, даб'ецца свайго, дасягне.

Вітаем настаўнікаў, выхавацеляў маладога пакалення, якія аддаюць усе свае веды і сілы, каб з іх выхаванцаў выраслі сапраўдныя людзі, людзі вялікай і светлай будучыні.

Вітаем усіх Вас, сябры, і жадаем вялікіх поспехаў у вучобе, працы і жыцці.

Адначасова спадзяваемся, што ў гэтым навучальным годзе яшчэ больш акрэпне Ваша сувязь з нашай рэдакцыяй, што на старонках нашай газеты яшчэ больш будзе Вашых разважанняў, выказванняў, думак. Мы спадзяемся атрымаць ад вас і цікавыя карысныя заўвагі і парады, будзем расказваць аб вашай працы і дасягненнях. Спадзяемся, што наша газета будзе вашым пастаянным сябрам, а вы яе чытачамі і дабравольнымі карэспандэнтамі.



НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## ПЛЁННАСЦЬ ПРАЦЫ



Старшыня Прэзідыума ПРН у Бельску Падляшскім тав. Леан Пэрэк.

Уся краіна ўрачыста святкуе сваё тысячагадовае існаванне. Шэраг гарадоў Беласточчыны ўжо адзначыла даты свайго заснавання. Іх славе пазайздросціла сталіца Бельскай зямлі. І тут паўсталі спрэчкі. Адны сцвярджалі, што Бельск быў заснаваны 900 год таму, другія прызнавалі яму ледзь сямісотгадовую гісторыю.

**— Астаткова, якую гадавіну Вы адзначаеце?** — звяртаюся да старшыні Прэзідыума ПРН у Бельску Падляшскім тав. Леана Пэрка.

— Каб аўтарытэтна вырашыць гэтае вельмі важнае для нас пытанне, — адказвае старшыня, — мы звярнуліся да Акадэміі Навук. У выніку архіўальных доследаў ПАН упаўнаважыла нас да святкавання дзевяцісотгоддзя.

**— Такому аўтарытэту, як Акадэмія Навук, зразумела, нельга не верыць. Дазвольце тады пажадаць гораду Бельску новых, больш шчаслівых дзевяцісот гадоў буйнага развіцця.**

— Шчыра дзякую... Але дзевяцісотую гадавіну адзначае не толькі горад Бельск. Яе святкуе Бельскі павет. Гэта ўжо вынікае з асноўнага лозунгу, пад якім мы арганізуем усе мерапрыемствы.

**— Менавіта?**

— «Бельшчына кляймуе фашызм. Бельшчына — за мір!» Горад Бельск цалкам звязаны з Бельшчынай. Без яе не мог бы існаваць і развівацца.

У мінулым і пакуль што ў сучаснасці ў гаспадарцы Бельскага павета пераважае сельская гаспадарка. Але яе стан з недалёкага мінулага і стан сучасны — гэта неба і зямля. У апошнія перадваенныя гады (1936 — 1938) хлебаробы Бельскага павета атрымлівалі з аднаго гектара не больш дзевяці цэнтнераў збожжа. Зараз ураджайнасць узрасла да звыш 15 цэнтнераў з аднаго гектара.

**— У гаспадарцы наогул, а тым больш у сельскай гаспадарцы няма цудаў. Чым можна растлумачыць такі хуткі рост ураджайнасці?**

— Прычын ёсць многа. Яны як найбольш разнастайныя, але перш за ўсё гэта культурны ўздым людзей, павышэнне іх грамадскай свядомасці і гаспадарская адказнасць не толькі за свой лёс — гэта вынік перамен, якія прынесла з сабою народная ўлада.

Да вайны на Бельшчыне было ўсяго 4 сямікласныя школы. Зараз — 74. Да вайны толькі выбраныя шчасліўцы, пераважна дзеці багатых бацькоў, маглі лабіцца вышэйшай адукацыі. Зараз, паводле апошніх нашых падлікаў, у вышэйшых навучальных установах вучыцца 243 асобы, бацькі якіх жывуць на Бельшчыне. Большасць з іх атрымлівае дзяржаўныя стыпендыі і бацькі пакрываюць нязначную частку коштаў. Для той часткі моладзі, якая пасля заканчэння пачатковай школы не праяўляе ахвоты да далейшай вучобы, арганізуем школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Такіх школ у нашым павеце налічваецца зараз 29.

**— Як ацэньваеце зацікаўленне школамі сельскагаспадарчай падрыхтоўкі?**

— У сялянскай моладзі яно вялікае. Больш скептычна на школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі глядзяць старэйшыя гаспадары. Чадаўна ў адной вёсцы нашага павета адбылося вось такое здарэнне. Сын аднаго гаспадара, выслухаўшы лекцыю ў школе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, без вагі «зважыў» бацькаву карову. Ён змерыў яе ў некалькіх месцах, затым падлічыў і атрымаў адпаведны вынік. Бацька з ім не згаджаўся. Узнік спор. Каб даказаць сыну, што яго веды, якія здабыў у школе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, нікуды не прыгодныя, бацька наладжыў вяроўку і пацягнуў карову на базу. Там яе зважылі і аказалася, што сын памыліўся толькі на 10 кг. Ад гэтага часу бацька не толькі перастаў наракаць на

(Працяг на стар. 4)




Дарога ў лагер смерці Штутгоф. Ар тыкул аб гэтым лагеры чытайце на стар. 6.

 

# Махнатаўскія кантрасты

Махнатае нічым не розніцца ад другіх вёсак Гайнаўшчыны. Вёска вялікая — звыш 100 гаспадароў. Вуліца брукаваная, мясцамі надгрызеная зубам часу. Па баках — драўляныя дамы, упрыгожаныя кветкамі агародчыкаў. Далей кішкаватыя панадворкі і гаспадарчыя пабудовы. Цесна. Людзі жывуць сярэдне. Не вельмі багата, але і не бедна. Скварка ці кусок мяса не выводзіцца круглы год.

Некаторыя прыдбалі сабе сельгасмашыны, некаторыя матацыклы. Але такіх у вёсцы мала.

* ✻ *

Аб справах вёскі гутарым у мясцовай школе.

Размоўцы — гэта пераважна члены пярвічнай партыйнай арганізацыі, якія сыходзяцца на чарговую лекцыю партвучобы. Размова не зусім вяжацца. Незнаёмыя. Сяляне — народ падазроны. Чалавеку, якога не ведаюць, душы не раскрыюць. «Хто ж яго ведае, чым ён пахне?»

У такім выпадку дапамагаюць непасрэдныя запытанні.

— Механізацыя раскручваецца ў нас нядрэнна, — адказвае адзін з дзядзькоў, закурваючы папяросу. — У вёсцы ўжо звыш 200 коней, а на наступны год пагалоўе іх яшчэ павялічыцца, — іранізуе.

— Навошта аж столькі коней, ці не лепш на іх месца павялічыць колькасць кароў?

— Напэўна лепш, але чым абрабіць зямлю?

— Ёсць жа ў вас сельгасгурток.

— Фармальна. Практычнай дзейнасці гурток неяк у нас не праяўляе.

— А чаму?

Пасля даволі доўгай цішыні адзін з дзядзькоў пачаў гаварыць.

— Бачыце, справа ў тым, што сельгасгурток неяк нас не прыцягвае. У Махнатым даўжэйшы час існавала спулдзельня прадукцыйна. І трэба сказаць, што мы ў ёй ненайгорш сабе радзілі. Але вось, у 1957 годзе спулдзельня рассыпалася.

— Чаму?

— А хто яго ведае. Відавочна, час такі надышоў.

— Гурток існуе ў нас толькі фармальна. Ніякае дзейнасці не праяўляе, — уключыўся другі селянін. — Амаль усе сяляне сеюць уручную. А сельгасмашына на нашым полі — дык гэта рэдкасць. Гурток і ёсць на тое, каб механізаваць апрацоўку зямлі, каб пазбыцца пражораў — коней.

— А якія ўраджаі атрымліваеце? — пытаю.

— Наогул нядрэнныя. Ёсць гаспадары, як, напрыклад, Павел Красько, Сцяпан Аляксеюк, Рыгор Кучко ці Сымон Амільянюк, якія атрымліваюць па 30 цэнтнераў збожжавых з гектара, трымаюць па 3—4 дойныя каровы.

— Дык іх жа жменька ў вёсцы, — запярэчыў нехта. — А ўсе астатнія што? Вазьмі, напрыклад, Сяргея Філіманюка. У яго ніколі больш не бывае чым 10 цэнтнераў з гектара.

— Калі ён гультай, дык хто ж яму вінаваты?

— Дык не ў гультайстве тут справа. Ці ж Сяргей не хоча атрымліваць больш? Хто ж гэта хоча сабе благога? Але вось не выходзіць. А такіх як Сяргей большасць у вёсцы. Чаму?

— Гаспадарыць мы, браткі, не ўмеем, вось у чым справа! — заключыў адзін з прысутных. — Паглядзі толькі, як тэхніка пайшла наперад. Людзі ў космас лётаюць. На месяц хочуць узабрацца, а мы топчамся на месцы ды ўсё трымаемся старых метадаў апрацоўкі. Адсталыя мы, браткі.

— А хто ж нас навучыць новага? Агранома Дрвэнгу сілком у гурток не прыцягнеш.

— Адзін аграном таксама не зробіць рэвалюцыі, калі яму не дапаможам. Арганізавалі ў нас сельскагаспадарчую школу. Дык колькі ў яе запісалася? Жменька. Самая моладзь. Старэйшыя не маюць часу. А лапатаць без толку языкамі на вуліцы дык могуць гадзінамі. На гэта ёсць час. Справу сельскагаспадарчай адукацыі прапаную разгледзець на адным са сходаў партарганізацыі. Так жа нельга далей!

— Ох, і разгаварыліся ж мы, — спахапіўся дакладчык. — Але аб асноўным забылі. Тэмай сённяшняй лекцыі будзе...

**В. БАРШЧЭЎСКІ**

# СУСТРЭЧА З САВЕЦКІМ ЧАЛАВЕКАМ

(Працяг са стар. 2)

яна з'яўляецца штодзённасцю. Мастацтва адлюстроўвае актуальныя праблемы сучаснасці, знаходзіць жывы водгук у народзе.

Каля кіёскаў з кніжкамі можна сустрэць калгаснікаў, купляючых томікі паэзіі, можна іх сустрэць у музеях і тэатрах.

Аднойчы прышлося мне пабываць у Рускім Тэатры на пастаноўцы сучаснай савецкай п'есы «Дзіўны дом». І вось на сцэне адбываецца наступнае: стары, заслужаны генерал з дакорам звяртаецца да свайго сына, паводзіны якога не падабаюцца бацьку, са словамі: «Уяўляю сабе, што заўтра вайна. І што з цябе за воін?! Ці хопіць у цябе сіл, каб стаць у абароне радзімы?»

У гэты момант у зале раздаўся чыйсьці малады голас: «Напэўна хопіць!»

Гэты блізкі кантакт. які адчуваецца паміж сцэнай і публікай, з'яўляецца толь-



Усе жыхары Бельска актыўна ўдзельнічаюць у працах над упрыгожваннем свайго горада. На здымку: Зінаіда Петручук і Браніслаў Малеўскі закладаюць кветкі перад жылым домам Рашарні, у якім яны атрымалі кватэры.

# ПЛЁН

(Працяг са стар. 1)

сына, што «траціць» час на непатрэбную навуку, але паслаў у тую ж школу яшчэ дачку.

**— Гісторыя вельмі вымоўная. Можна меркаваць, што школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі маюць непасрэдны ўплыў на рост культуры апрацоўкі зямлі.**

— Несумненна. Зараз наш павет, напрыклад, выкарыстоўвае каля 10 тысяч тон штучных угнаенняў.

**— Гэта многа ці мала?**

— У адносінах да патрэб — мала, але да вайны цэлае Беластоцкае ваяводства скарыстоўвала ўсяго тысячу тон. Рост культуры апрацоўкі зямлі праяўляецца між іншым таксама ў зацікаўленні меліярацыяй. Дагэтуль на меліярацыю мы выдалі каля 150 мільёнаў злотых.

**— Усё гэта, аб чым Вы гаварылі, несумненна спрыяе павышэнню матэрыяльнага ўзроўню сялян. У чым гэта праяўляецца?**

— Напрыклад, ва ўласным будаўніцтве. Наогул вядома, што гаспадар бярэцца за пабудову толькі тады, калі мае на гэта адпаведныя сродкі. Штогод кожны васемнаццаты гаспадар штосьці сабе будуе, прычым пераважна з вогнеадпорных матэрыялаў.

Дазвольце звярнуць яшчэ вашу ўвагу на ахову здароўя ў нашым павеце. У бягучым годзе мы атрымалі прасторны абсталяваны сучаснай тэхнікай павятовы шпіталь, а на тэрыторыі павета працуе зараз 12 фельчарскіх пунктаў і 5 ветэрынарных лячэбніц. Кожны грамадзянін у найдалейшым кутку павета на працягу паўгадзіны можа атрымаць лекарскую параду, карыстаючыся хуткай дапамогай.

**— Дзякую за паясненні, аднак дазвольце вярнуцца да мерапрыемстваў, непасрэдна звязаных са святкаваннем 900-годдзя Бельшчыны.**

— Ну што ж, калі ласка.

**— Як разумець ваш лозунг: «Бельшчына кляймуе фашызм, Бельшчына — за мір!»?**

— Да вайны польскія фашысты мучылі ў турмах найлепшых сыноў Бельшчыны. У час вайны цярпелі яны гітлераўскі тэрор. Хопіць прыпомніць хаця б трагедыю Райска. Пасля вайны непакоіла нас фашысцкае падполле. Польская Рабочая Партыя на Бельшчыне была партыяй, большасць членаў якой аддало сваё жыццё за народную ўладу. Аб гэтых справах зараз гаворым з насельніцтвам нашага павета. У шматлікіх гутарках, якія правялі нашы дакладчыкі ў вёсках, пасёлках перад сеансамі кіно і праз радыёвузел, выяўляем зверствы фашызма і паказваем нашы дасягненні ў мірнай працы. Так

(Працяг са стар. 2).

— Мне здаецца, таварыш капітан і, дарэчы, не толькі мне, што апошнім часам вы вядзеце сябе надта рызыкоўна!

— Уся мая работа тут — рызыка.

— Ведаю, але вы надта папусцілі лейцы. Вымушаны папярэдзіць, што стаіць пытанне пра перавод вас адсюль.

Генрых здрыгануўся.

— Ды ў вас, выяўляецца, і нервы пачалі здаваць? — стары ўважліва глянуў на Генрыха. — Мне вядома, што пра вашы сувязі з макі і дапамогу ім ужо ведае некалькі асоб, нават больш — з добры дзесятак людзей. Вы гэтага не запярэчваеце?

— Не.

— І адчуваеце сябе ў поўнай бяспецы?

— Небяспеку нараджае сам характар маёй працы.

— Не пра гэта разыходзіцца. Ці вы ведаеце, што вашымі знаёмымі ўжо цікавіцца гестапа?

— Ведаю.

— Раскажыце, што вы ведаеце!

Генрых расказаў пра сваю апошнюю размову з Заўгелем, яго падазрэнні адносна Монікі, пра правакатара з электрастанцыі.

— Якія захады вы зрабілі?

— Ліквідаваў Заўгеля, а пра правакатара паведаміў Моніку Тарваль і камандзіра атрада макі...



— Старшы электратэхнік два дні таму раптоўна памёр, паражаны токам высокага напружання.

Генрых аблегчана ўздыхнуў.

— Яшчэ ёсць нейкія падазрэнні супроць вас?

Генрых расказаў пра ананімку Шульца.

Антыквар задумаўся.

— Шульца трэба абясшкодзіць. І як найхутчэй. Калі ў яго з'явіліся падазрэнні, то ён не абмяжуецца адной ананімкай.

— Я мушу заўтра выехаць на Атлантычны вал і спадзяюся, што там знайду Шульца, — яго ж данос надыйшоў з Монтэфлер.

— З якімі даручэннямі вы едзеце на Атлантычны вал?

Генрых расказаў пра заданні Еверса.

— Гэта якраз тое, што нам патрэбна, як паветра! Нас поўнасцю задаволіць копія рапарта вашаму генералу, ну і, звычайна, фотаплёнка. Але памятайце, што таямніцу Атлантычнага вала гестапа ахоўвае, бы зрэнку вока. Там ужо загінула некалькі нашых і англійскіх разведчыкаў.

— Спадзяюся, што мне больш пашчаслівіцца!

— Мы таксама. Вы добра замаскаваліся. Было б недапушчальным вар'яцтвам дэмаскаваць сябе праз нейкую неразважнасць ці лішнюю малайцаватасць. Таму нас так і турбуе тая рызыка, якой вы сябе часам паддаеце, умешваючыся ў справы, ад якіх



павінны стаяць з боку. Гэта таксама датычыць і Людвіны Дэкок.

— Яе арышт пагражаў і маёй непасрэднай бяспецы.

— Мне здаецца, што вы кіраваліся не толькі гэтым. Памятайце, капітан, што часам, ратуючы аднаго чалавека, мы рызыкуем жыццём соцен, а то і тысяч. Рызыкуем заваліць тыя планы, пра якія мы з вамі нават не здагадваемся. Такія планы ёсць у камандвання і адносна вас. Дык будзьце асцярожны, у дзесяць раз асцярожней, чым былі дагэтуль. Паўтараю, вам пашчаслівілася так добра ўладзіцца ў гітлераўскім логаве, што было б проста злачынствам заваліць сябе.

— Ад чацвертага лютага я афіцыйны нарачоны дачкі генерала Бертгольда.

— Ведаю, — без цені ўсмешкі адказаў антыквар. — Ваш цесць, капітан, жорсткі чалавек, нават сярод гестапаўцаў йдзе пра яго слава. Бузьце з ім асцярожны і пастарайцеся як найлепш выкарыстаць яго давер.

— Сувязь тая самая? — спытаў Генрых.

— Не. Праз вашу неасцярожнасць мы змянілі сістэму сувязі. Калі вернецеся з камандзіроўкі, атрымаеце ўказанні.

Стары антыквар моцна паціснуў руку Генрыха і выйшаў. Генрых змучана ўпаў у крэсла і доўга ся-





 

 

кі адным з праяў сувязі савецкага мастацтва з нарадам.

Выпадкова, давялося нам аднойчы пры музеі Янкі Купалы сустрэць беларускіх пісьменнікаў, сярод якіх быў польскі пісьменнік Ежы Путрамент. Адбылася кароткая, але прыемная гутарка, зроблены памятны здымак. Максім Танк зажартаваў: «Вось, як добра, што прыехалі вы ў Мінск, прынамсі ўбачыце Путрамента. У Польшчы б не ўбачылі». На жаль, у жарце М. Танка многа праўды.

Сустрэча з савецкім чалавекам — вельмі прыемная сустрэча. Кім бы ён ні быў: пісьменнік, вучоны, член урада ці просты рабочы — з кожным так лёгка тут навязваецца размова, так непасрэдна і свабодна гутарыцца.

УЛАДЗІМІР ПАЎЛЮЧУК

# НАСЦЬ ПРАЦЫ

трэба разумець наш лозунг і гэта асноўныя нашы мерапрыемствы.

**— А вынікі іх?**

— Праяўляюцца перш за ўсё пры пабудове і парадкаванні дарог і другіх аб'ектаў. Вартасць прац грамадскім чынам у гонар 900-годдзя дасягае 8 мільёнаў злотых. Гэта амаль столькі, колькі ў год выдае дзяржава на пабудову дарог. У павеце напраўляюцца дарогі, а сам Бельск шмат папрыгажэе.

**— На заканчэнне дазвольце пазнаёміць нашых чытачоў з Вамі асабіста.**

— Калі гэта неабходна...

**— Даўно вы з'яўляецеся гаспадаром павета?**

— Ад лютага бягучага года.

**— А перад тым?**

— Шэраг гадоў працаваў у тутэйшым сельгасаддзеле.

**— Ці Бельшчына з'яўляецца вашай бацькаўшчынай?**

— Не, нарадзіўся я ў мястэчку Сасновец на Сілезіі. У Бельск трапіў па скіраванню пасля заканчэння Вышэйшай школы сельскай гаспадаркі ў Варшаве.

**— Цікава, як адчуваеце сябе тут, на Бельшчыне?**

— Зусім добра. Тут ажаніўся, тут жыве мая сям'я і тут я ўжо астануся.

Гутарыў

ВІКТАР РУДЧЫК

Фота аўтара



У Бельску штораз больш новых, прыгожых жылых дамоў. На здымку бачым жылы дом, які пошта пабудавала сваім працаўнікам.

дзеў задуманы. З гэтага стану вырваў яго тэлефонны званок Мілера.

— Хто, хто прыедзе на места Заўгеля?.. О, я яго вельмі добра ведаю! Кубіс — цудоўны афіцэр і сапраўдны сябра. Гэта для вас знаходка, Ганс! Што? Хочаце зайсці? Буду вельмі рады.

Неўзабаве з'явіўся Мілер.

— Чуў, заўтра выязджаеце. Вы не забылі, Генрых, што абяцалі сказаць мне нешта важнае?

— Не забыў. Але я ніколі не спяшаю гаварыць сябрам непрыемныя навіны.

— Непрыемныя? Апошнім часам ў мяне столькі непрыемнасцей, што адною больш, адною менш — розніцы няма.

— Вы лічыце? Добра! Дык ведаеце хто дапытваў мяне і Пфайфера ў штабе макі? Сам Поль Шанье! Так, Поль Шанье — уцякач з падземнага завода, за ліквідацыю якога вы атрымалі пяць тысяч марак!

Запала маўчанне. Чутна было, як цяжка дыхае Мілер.

— Апрача вас, Генрых, хто яшчэ яго бачыў?

— Гер Пфайфер, шафёр і Берціна Граўзамель.

— Пра Поля Шанье вы гаварылі каму-небудзь?

— Гер Мілер! Вы надта дрэннай думкі пра сваіх сябраў! Гэта будзе нашай таямніцай, Ганс, пакуль...

— Пакуль што? — насцярожыўся Мілер.

— Пакуль мы будзем з вамі сябрамі! — шматзначна кінуў Генрых.

**(Працяг за тыдзень)**

183

**ВЕДЫ ДАЮЦЬ ЗДАРОЎЕ.**

# З АГРАНОМАМІ ЯК З ЛЕКАРАМІ

З лекарамі лягчэй. У павеце ёсць іх па некалькі. Аграномаў, у найлепшым выпадку, па адным! А ўсіх аж... адзінаццаць у службе беластоцкіх сельскагаспадарчых гурткоў. Ёсць яшчэ 219 сельскагаспадарчых тэхнікаў і 53 выпускнікі двухгадовых сельскагаспадарчых курсаў. Разам немалая лічба...

— Такі стан за першае паўгоддзе, — папраівілі мяне. — Цяпер дасягнута (зноў!) лічба 311...

Дэвіз: у кожнай грамадскай радзе агроном! Ну, хаця б тэхнік або курсант... Пастаянны, штатны. А грамадскіх рад на Беласточчыне 326. Недахоп нават аптымістычны. Сапраўды. Палічыце.

— У другіх ваяводствах сітуацыя куды горшая, — пацяшаюць.

У Сямяціцкім, Бельскім, Гайнаўскім, Беластоцкім паветах няма ўжо вольных месц. Трошкі горш на Сакольшчыне (2 вакансіі) і зусім кепска на Дуброўшчыне, дзе пустуюць дзве новапабудаваныя аграномаўкі (пабудаваны 32 аграномаўкі і адаптавана далейшых 20. Будуецца — 34, і плануецца будова новых 22 аграномавак).

Цікавых інфармую, што незадоўга будуць выканчаны аграномаўкі ў Сідры на Сакольшчыне; у Пасынках і Бранску на Бельшчыне; у Нарве на Гайнаўшчыне і Юшкавым Грудзе ў Беластоцкім павеце. Іменна, незадоўга — так сказалі. Зрэшты, не будзем шукаць прыдзіркі...

Ваяводскаму аддзелу сельскай гаспадаркі і без таго хапае турботаў. Звыш трэцяй часткі асабовага складу дзяржаўнай сельскагаспадарчай службы неабходна замяніць кваліфікаванымі спецыялістамі. ПГР-ы падаюць больш канкрэтны лік — дайце з сотню аграномаў. На зарэз!

Няўжо няма?Ператрэслі персанальныя справы ва ўсякіх фірмах і ўстановах — тандлёвых, камунальных, тэхнічных, прамысловых, фабрычных. Знайшлі больш чатырохсот кваліфікаваных і тых высокакваліфікаваных спецыялістаў ад палявых культур і жывёлагадоўлі. Пераважна знайшлі іх у Беластоку. Жылі згодна з правілам «Лепш быць чорнарабочым, абы ў горадзе».

**МАНАЛОГ**

Сельгасгурткі: — У нас сярэдні заробак 1.700 зл.

ВРН: — Максімум 1.300 зл.

Парадоксы. Паводле распараджэння Міністэрства сельскай гаспадаркі, выпускнік сельскагаспадарчай школы першыя гады павінен працаваць у сістэме дзяржаўнай сельскагаспадарчай службы (т. зв. стаж): у ПГР-ы, ПОМ-е, спулдзельні прадукцыйнай. Заробкі? Тэхнік — да 1.100 зл., інжынер - агроном — да 1.250 зл. — 1.300 зл. Пасля такога, самае малое гадавога стажу працы сельскагаспадарчыя гурткі маюць права «агітаваць» яго да сябе.

З горада пішуць блізкія, сваякі. Вядома, дапамогуць падшукаць лепей платную работу. Няхай сабе і кіраўніком магазіна...

Міністэрства здароўя ставіць справу востра. Выпускнікі медыцынскіх школ, якія не працуюць па сваёй прафесіі, абавязаны зарэгістравацца ў вызначаным тэрміне. Інакш страцяць права да здабытых кваліфікацый! Цэнтраля сельскагаспадарчых гурткоў усё ж мае идзею адваяваць у сваім Міністэрстве дазвол на ўдзяленне стажу працы свежа спечаным аграномам, тэхнікам, інжынерам, магістрам.

* ✲ *

Зямлі, маці - кармііліцы, нездаровіцца. Выглядае слабей, чым яе савецкая, нямецкая ці чэшская сёстры. Лекар тут бязрадны...

А. АНТАШЭВІЧ

## У беластоцкім падполлі

# НЕ, ПАНОЧКІ

Вечаровы цягнік з грукатам спыніўся на станцыі Валілы. Сымон Кузьмін вылез з астатняга вагона. У твар бухнула марознае паветра. Мацней схапіў мяшок і ўзваліў яго за плечы.

Краем лесу выбраўся на поле: прыезджыя ішлі гасцінцам проста на агні Гарадка. Штораз ступаў ва ўглыбістыя барозны, засыпаныя снегам. Кіраваўся на тарасевічаву хату.

Ёзік Тарасевіч спаў. Асцярожны стук у акно. Забрахаў суседскі сабака.

— Паліцыя следзіць, ходзіць кругом, — зашаптаў.

— Я ішоў полем.

Размаўлялі ўпоцемку. На пячы зашамацела салома, варухнуліся белыя ногі.

— Раздзявайся.

На другі дзень, вечарам, ціха было ў філанчуковай хаце ў Зарэччах. «Нядзеля. Відаць пайшлі да сваякоў...» — так мог падумаць сусед.

— Матэрыялаў прывёз многа, — Кузьмін хвіліну прыслухоўваўся, за дзверы дзёр кот. — Дзейнічайце разважна, без лішняй рызыкі. Выбарчыя нумаркі на беларускіх паслоў кальпартаваць толькі праз пэўныя асобы. Інакш, дэфензіва ўсё перахопіць і прайграем выбары...

Навокал сядзелі Філанчук, Ёзік Тарасевіч, Алесь Бароўскі, Алесь Дзярманскі, Сачко, Гедзіч і інш. Увесь гарадоцкі актыў КПЗБ.

Знаходзіліся тут Міхась Пракопчык і Пятро Рамановіч з Плянтаў у Сакольскім павеце.

— Лістоўкі лістоўкамі, але трэба разгарнуць жывую агітацыю, арганізоўваць мітынгі на кірмашах і царкоўных фэстах, — азваўся адзін з іх. — Вось, прыкладна, заўтра ў Сакольцы тарговы дзень...

* ✲ *

Світала.

У Саколку дабраліся ў найбольш адпаведны час. Людзі і фуры — фуры і людзі. Натоўп выліваецца ў вуліцы. Гэткі сакольскі кірмаш! А вось і таварышы з Гаркавіч, Паўднёвага Вострава, Слоі, Сухініч.

— Спазніліся, — кажуць. — Каталіцкі кандыдат Савіцкі ладзіць мітынг.

— Нічога, пачакаем, — Кузьмін нават задаволены.

— Грамадзяне! — выкрыквае Савіцкі, стоячы на кадушцы па селядцах. Крыўдзяць наш сялянскі стан, самі аб гэтым добра ведаеце. Калі па вашай волі, людцы мае дарагія, застануся паслом, буду бараніць вас з усіх сіл... — лапатаў, аблізваючы засохлыя губы.

Народ збягаецца.

— Не верце гэтаму падпанку і ксяндзоўскаму прыслужніку, — Сымон Кузьмін выступіў зараз жа пасля яго. — Быў ён дагэтуль паслом і што ж добрага зрабіў? Га!? Зноў туманіць нашы галавы, каб далезці да поўнага жолабу. Савіцкаму не быць паслом!

— Паліцыя! — нехта ззаду турзануў Сымона. — Уцякай!

Паліцыянты і шпікі праціскаліся праз людскі гушчар. Разглядаліся, бы тыя гусакі.

Сяляне абкружылі Кузьміна шчыльным гуртам. Хтосьці зняў яму гарадскую шапку і насунуў па самыя вочы лахматую вушанку, на пальто накінулі кажух. Гурбою павалілі ўздоўж Гродзенскай вуліцы.

Не распазналі.

Прыпыніліся каля царквы. Савіцкі зноў ускочыў на кадушкі, павярнуўся да людзей і ў той жа момант ламануў на зямлю. Зарагаталі. Гэта нейкі дзядзька «сперазаў» былога пасла пугаю па спіне.

Зайшлі ў гасподу.

— Куды хочаш цяпер?

— Хведар Кастэцкі з Плянтаў запытальна глядзеў Сымону ў вочы.

— Да Сакалды, — і падумаў, што даўно не быў у свайго дзядзькі Якуба Красніцкага.

— Ёсць фура з Талькоўшчыны.

— Вядзі.

Зімовы дзень кароткі. Сонца сцеле ўжо свае доўгія цені, з усіх бакоў мястэчка выпаўзалі на гасцінцы шнуры саней. Чуўся п'яны спеў.

Да Талькоўшчыны заехалі перад змярка映ннем. Гасцінны гаспадар запрасіў Сымона Кузьміна паесці — от, чым хата багата.

— Вам куды? — спытаў нясмела.

— Мне да Сакалды трэба, браток.

— Адпачніце пакуль што і да чаго. Я пагавару з суседам.

Сівы наравісты конь «папёр», бы сатана. На паваротах неміласэрна кідала і падкідвала. З-пад падкоў ляцяць кавалкі змёрзлага снегу. Усё цела дрыжыць ад холаду.

У пушчы адчуў сябе цяплей, з конскага хрыбта коціць пара. Яшчэ завідна праехалі Копную гару. Унізе мост на рацэ Сакалда і першыя будынкі.

Па прывычцы агляунуўся — і не мог паверыць сваім вачам. — Услед гналася фура з паліцыянтамі!

—Хутчэй, — крыкнуў змененым голасам.

Голыя вішні, плот, дзверы. Сымон лёгка адштурхнуўся ад палазоў, пакаўзнуўся, схапіўся і пабег. Сані крутнулі ў вясковую вуліцу, паліцыянты пагналіся за імі. Уратаваны!

— Што сталася? — спалохаўся дзядзька. — Адкуль ты?

— Паліцыя. Поўна шныпраць па хатах... — у нагах разлівалася слабасць.

— Лезь на гару, пад апухі.

Цішыня аж у вушах звініць. Праз столь чутно, як нервова ходзіць па кухні дзядзька Якуб. Раптам ломат у дзверы. «Ідуць!» — Сымон прытаіў дыханне.

— Да вас ніхто не заходзіў? — паліцыянт закашляўся.

— Не, паночкі.

— А не бачылі на вуліцы кагось з чужых?

— Не бачыў, паночкі.

Грукнулі дзверы. Выходзяць... Не, яшчэ пазаглядалі ў сенцах.

У аўторак рана Красніцкі адвёз Кузьміна да Алёны Буднік, вопытнай КПЗБ-оўкі, у Супрасль на вуліцу Касцельную 6. Стары Буднік памармытаў, але ўсё ж падвёз да Агароднічкаў. Да Беластока, моў, адсюль рукой падаць.

Сымон Кузьмін падвязаў шнурком адгніўшыя падэшвы ў чаравіках і пайшоў.

* ✲ *

Передвыбарная кампанія 1928 года была ў разгары.

САКРАТ ЯНОВІЧ



 

# Трыбуна чытачоў

## Чаму забылі матапомпу?

У 1957 годзе ў Старым Ляўкове была арганізавана добраахвотніцкая супрацьпажарная каманда. У склад яе ўвайшло звыш 15 жыхароў. Калі неўзабаве была адрамантавана святліца, у рамізнай частцы знайшлася матапомпа і іншыя супрацьпажарныя прылады. Тут жа, на плошчы перад святліцай, праводзіліся заняткі. Спраўна працавала матапомпа, мігам ляцела вада з рэчкі. На гэтым і ўсё закончылася. Нашым пажарнікам не давялося ваяваць з агнём. Матапомпа апынулася пад замком.

Ноччу з 15 на 16 жніўня г. г. праз вёску прайшла навальніца. Ад маланкі загарэўся прышкольны гаспадарчы будынак. Будынак быў драўляны і згарэў да тла. Дзякуючы супольным намаганням жыхароў вёскі агонь не здолеў перакінуцца на іншыя будынкі. Змагаліся людзі са стыхіяй дзедаўскімі спосабамі, а праз дарогу, у святліцы пад замком танула ў цемры забытая матапомпа.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## СЛАБА!

Міхалоўская грамадская рада (Беластоцкі пав.) ахоплівае 17 вёсак з 13 салтысоўствамі. Тэрыторыя, як бачым, немалая.

Дагэтуль існуе тут усяго 5 сельскагаспадарчых гурткоў, якія не праяўляюць асаблівай актыўнасці. Толькі два з іх — у Новай Волі і Казімерове — заслугоўваюць увагі. Закупілі яны ўжо па 2 камплекты сельскагаспадарчых машын і агрэгатаў. (ся)

## Вораг авечкагадоўлі

Зімою ў час марозаў вельмі патрэбны кажух. А каб мець кажух, трэба гадаваць авечак. І сяляне кожнай вёскі, асабліва на Гайнаўшчыне, займаюцца авечкагадоўляй. Бо з авечак не талькі добрыя кажухі, але і добрае мяса. Але вось бяда. Авечак там вельмі моцна нішчыць вядомая гаспадарам хвароба матыліца. Значна прарэдзіла яна вясковыя статкі авечак і прынесла вялікія страты. А ветэрынарная служба недастаткова займаецца ліквідацыяй гэтай хваробы. У гэтым выпадку неабходная такая акцыя, як у мінулым годзе, калі ўся ветэрынарная служба займалася ачысткай вясковых статкаў ад сухотных кароў.

мх.

## ВЫПАДКІ НА ДАРОГАХ

Як паведамляе нас Ваяводская Камендатура МО, на працягу толькі пяці дзён (ад 16-га да 20-га) жніўня б. г. на дарогах Беластоцкага ваяводства здарылася 10 няшчасных выпадкаў, у выніку якіх некалькі асоб была забітых, а шмат параненых.

Асноўныя прычыны гэтых няшчасных здарэнняў пастаянна паўтараюцца. Гэта перш за ўсё п'янства шафёраў, неразважлівая, праз меру хуткая язда і недахоп апекі над дзецьмі.

Вось, напрыклад, Мечыслаў Тапчэўскі з вёскі Якубоўскае ў Бельскім павеце 16 жніўня па-кавалерску імчаўся матацыклам праз вуліцу сваёй вёскі. Раптам на дарогу выбегла дзіця Антона Валінскага. Матацыкліст не паспеў затармазіць і дзіця трапіла пад колы матацыкла. Апрача матацыкліста, вінаваты тут таксама бацькі, якія пакідаюць дзяцей без належнай апекі. (вр)

## Настаўнікі вучаць і вучацца

У Сямяціцкім павеце працуе зараз каля 400 настаўнікаў.

Як вядома, школьны год 1962/63 з'яўляецца пачаткам ажыццяўлення школьнай рэформы, г. зн. пераходу пачатковай школы ад сямікласнай да васьмікласнай структуры.

У сувязі з тым паўнапраўным настаўнікам да навучання ў пачатковай васьмікласнай школе будзе лічыцца толькі той настаўнік, які мае закончаную прынамсі настаўніцкую студыю.

Добра наогул разумеюць гэта настаўнікі, працуючыя ў Сямяціцкім павеце. Зараз, паводле дадзеных інспектарата асветы ў Сямяціцах, 65 настаўнікаў папаўняе свае веды. Яны вучацца на шматлікіх факультэтах вышэйшых і няпоўных вышэйшых навучальных устаноў. Найбольш аднак настаўнікаў вучыцца ў завочных настаўніцкіх студыях.

(вр)

## ЦІ ВАРТА РАЗВОДЗІЦЬ ТРУСКАЛКІ?

Дзякуючы вялікай колькасці мінеральных солей і вітамінаў, трускалкі карыстаюцца вялікім поспехам у краіне і за граніцай. У некаторых краінах плантацыі трускалак займаюць плошчу ў некалькі тысяч гектараў, а іх экспарт за граніцу прыносіць значную колькасць дэвізаў. Італьянцы арганізавалі базу трускалак плошчай у 12.000 га, дзе на час даспявання адкрыты аэрадром, каб беспасрэдна вывозіць ягады на заграпічныя рынкі. Найбольш трускалак купляе Англія, ГФР, Швецыя і Нарвегія. Польшча мае вельмі добрыя ўмовы для расшырэння экспарту: гатункі трускалак, якія разводзяцца ў Польшчы, маюць вялікую вартасць; смак трускалак, дзякуючы кліматычным умовам, лепшы, чым у паўднёвых краінах. Пастаянна ўзрастае запатрабаванне на трускалкі з боку харчовай прамысловасці. Адзінай перашкодай у расшырэнні экспарту трускалак і забеспячэнні ўласнага рынка з'яўляюцца малыя плошчы зямлі, занятай пад трускалкі. Паводле статыстыкі, на тэрыторыі Беластоцкага, Лапскага, Сакольскага і Монькаўскага паветаў трускалкі займаюць плошчу 62 гектары. У дадатку, ёсць яшчэ дрэнныя, малавартасныя гатункі, а плантацыі ледзь-ледзь пакрываюць патрэбы гаспадароў.

Найлепшымі гатункамі для шырокага развядзення трэба лічыць:

1. «Ежы Зольтвэдэль» — гатунак надаецца да выкарыстання і ў прамысловасці, даспявае даволі рана, плады сярэдняй велічыні, добрыя смакам і пры добрым доглядзе дае ўраджай да 12 тон з гектара.
2. «Фаварытка» (тып Сэнга Сэнгана) — даспявае трошкі пазней, плады сярэдняй велічыні, надаецца і да выкарыстання ў прамысловасці, ураджайнасць 10—12 тон з гектара.

Вельмі добрымі гатункамі з'яўляюцца «Macherauchs Frühernte», «Huxley», «Regina», «Ydun», «Talizman», «Cambridge» і іншыя.

Усе гэтыя гатункі надаюцца для развядзення на продаж. Для гаспадароў маленькіх дзялянак асабліва добрым з'яўляецца гатунак «Аліўская трускалка», якая дае да 4 кілаграм ягад з аднаго карча. Гэты гатунак трускалак даспявае ў верасні і кастрычніку, дае смачныя плады, не патрабуе шмат месца. Насенне гэтага гатунку можна купіць у гэтым сезоне ў насенных магазінах спулдзельні «Вітаміна». Але гатунак гэты не надаецца для развядзення на продаж, бо позна даспявае і патрабуе вялікага ўкладу працы.

Трускалкі добра растуць на глініста - пясчаных і глінiстых добра ўгноеных глебах з вялікай колькасцю перагною і вільгаці. Не любяць моцна кіслай глебы, змытай і слаба акультуранай. Перад пасадкай глебу трэба добра ўгноіць, даючы 350—450 цэнтнераў гною на гектар. Зімой праводзіцца штучнае ўгнаенне: 200 кг калійнай солі і 200 кг суперфасфату на 1 га, а вясной — вапенную селітру.

У час выкарыстання плантацыі штогод трэба ўнесці 400 кг фосфарных, 300 кг. калійных і 300 кг азатных угнаенняў. Найлепш садзіць восенню на адлегласцях 70x30 см.

Пры ўраджаі 9 тон з 1 га і мінімальнай цане 8 зл. за 1 кг атрымліваецца агульны даход з аднаго гектара роўны 72 тыс. зл. Даход можа быць значна большы, бо ўраджай можа быць большы, а цана за кілаграм часам даходзіць да 18 злотых. Закладка плантацыі патрабуе 35 тыс. зл. на гектар. Ужо закладзеная плантацыя выкарыстоўваецца 4 гады.

Даходы відавочны і таму варта, каб сяляне, якія ўжо маюць вапыт у вырошчванні трускалак, закладалі прадукцыйныя плантацыі, якія далі б дадатковыя даходы ў гаспадарцы.

**М. ГАПУНІК**

**Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства выказвае глыбокае спачуванне члену Прэзідыума ГП БГКТ і старшыні Гайнаўскага аддзела Таварыства Васілю Дзуну з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці ЖОНКІ.**




### ПРАГРАМА

на 2 — 9.IX.

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавежа**
„Marysia i krasnoludki" (polski), 4—6. „Dwaj panowie N" (polski), 7—9.

**Навасады**
„Drugi człowiek" (polski), 8—9.

**Нараў**
„Dowidzenia do jutra" (polski), 5—9.

**Нараўка**
„Czas przeszły" (polski), 5—9.

**Чаромуха**
„Godziny nadziei" (polski), 4—6. „Awantura o Basię" (polski), 7—9.

**Чыжы**
„Dziś w nocy umrze miasto" (polski), 5—9.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**
„Dotknięcie nocy" (polski), 5—9.

**Бранск**
„Eroica" (polski), 4—6. „Historia żółtej ciżemki" (polski), 7—9.

**Гродзіск**
„Dziś w nocy umrze miasto" (polski), 8—9.

**Орля**
„Kwiecień" (polski), 5—9.

**Райск**
„Czas przeszły" (polski), 5—9.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**
„Historia jednego myśliwca" (polski), 4—6. „Historia żółtej ciżemki" (polski), 7—9.

**Міхалова**
„Eroica" (polski), 4—6. „Popiół i diament" (polski), 7—9.

**Супрасль**
„Wolne miasto" (polski), 4—6. „Dwaj panowie N" (polski), 7—9.

**Чорная Беластоцкая**
„Celuloza" (polski), 4—5. „Ziemia" (polski), 6—7. „Pod gwiazdą frygijską" (polski) 8—9.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Мельнік**
„Baza ludzi umarłych" (polski), 4—6. „Jutro premiera" (polski), 7—9.

**Нурэц**
„Nikodem Dyzma" (polski), 4—6. „Komedianty" (polski), 7—9.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі**
„Popiół i diament" (polski), 4—6. „Historia jednego myśliwca" (polski), 7—9.

**Сухаволя**
„Dwa dni spać" (polski), 4—6. „Rzeczywistość" (polski), 7—9.

**Шудзялава**
„Nafta" (polski), 5—9.

**Янаў**
„Historia jednego myśliwca" (polski), 4—6. „Bitwa o Kozi Dwór" (polski), 7—9.

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Ліпск**
„Krzyż walecznych" (polski), 8—9.

**Ружаны Сток**
„Zaduszki" (polski), 8—9.

У днях 3—9.IX.1962 г. у мясцовасцях Мілейчыцы, Кляшчэлі, Новы Двор фільмы высвятляцца не будуць.

## ЗА СКІБУ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

(Працяг са стар. 3)

— Глянь, як любоўна лягае яна да сваіх сясцёр. Так, тут яе месца!

Калі дайшлі да дарогі, бацька вопытным вокам яшчэ раз агледзеў ворыва і сказаў:

— Не найгорш. Але трэба яшчэ хоць каля дарогі абагнаць вось так, упапярок загона.

Хлопцы павярнулі коней і роўненька абагналі загон.

— Так, вельмі добра, — пахваліў Трахім сыноў. — Цяпер можам ехаць дамоў.

Хлопцы палажылі плуг на воз, запрэглі Дэраша, і селі на фурманку. Пасярод іх прымасціўся бацька.

Калі рушылі, бацька нечакана павёў гутарку:

— Слухайце, мае дарагія. Помню сваё жыццё ад самых маладых год. Калі я вярнуўся з бежанства, быў зусім адзінокі. Ніхто мне нічагутка не памог. Калі мне споўнілася васемнаццаць год, я ажаніўся. Ваша маці была першай памочніцай у гаротнай працы. Потым вы прышлі на свет. Гадаваў я вас з думкай, што вам будзе лягчэй жыць. Вы заўсёды будзеце ўдваіх. А сёння, калі я загадаў вам адараць скібу бацькаўшчыны, мне стала страшна за вас. Юзік не падаруе.

— Мы маладыя, мы не дамося яму, — адказаў Васіль.

Так і даехалі дахаты. Паабедаўшы, пашлі да клуні рэзаць сечку. Бацька накладаў ў лядніцу, а сыны дружна налягалі на жэрдку, якая прымацавана была да кола сячкарні і сцяны. Калі нарэзалі сечкі амаль цэлы куток, да клуні прыбегла маці.

— Слухай, Трахім, — глытаючы прагна паветра, пачала яна, — гэты сухі Юзік напэўна хадзіў на поле глядзець, як ты заараў, бо, убачыўшы мяне, трос куламі і лаяўся.

— Ведаю, што яму гэта не падабаецца. Ён думаў, што па маёй галаве век будзе ехаць. Калі яму крыўдна, то няхай змерае цэлы ўчастак.

Вечарам хлопцы пайшлі на вечарынку. Ля лавачкі, дзе заўсёды збіраліся, стаялі сыны Юзіка, Максім і Алесь са сваімі сябрамі. Не паспелі Янка з Васілём параўнацца з групай, як да іх адазваўся Панас:

— Пачакайце хлопцы, зараз пойдзем да дзяўчат.

Хлопцы спыніліся.

— Нешта холадна, — сказаў худы Алесь.

— Не бядуй, сёння сагрэешся, — адказаў Панас.

Максім зайшоўся ад пустога смеху.

Панас пачаў закідаць пра аранне, а потым, прыкінуўшыся ягняткам, спытаў ў Васіля:

— Што ты сёння рабіў?

— Што рабіў? Тое рабіў, што загадаў бацька.

— Ах, ты такі цваны! Кажы, што рабіў?!

— Што рабіў, то не твая справа.

— Калі не мая, то справа Максіма і Алеся.

Высокія і тонкія, як жэрдкі, Максім і Алесь падышлі бліжэй да Ваські і Янкі. Янка ўбачыў у іх руках кастылі. Але было ўжо позна. Не наспеў ён крыкнуць, як Васіль абліўся крывёю. Ён стаў чырвоны, бы мак у гародзе.

— За што? — глухім голасам спытаў Васіль і асунуўся на зямлю.

«За скібу бацькаўшчыны», — падумаў Янка і кінуўся да штахет. Не дабег. Кастылі Юзікавых сыноў паваліліі і яго побач брата.

Звярынае права яшчэ раз святкавала сваю ўяўленую перамогу.




Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-5-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie 5 $ — w USA.
Nakład 5000 Bltk F-3

 




## Баранoй па пустазеллі

Антон Казак з вёскі Кавалі на Сакольшчыне вядомы ва ўсёй аколіцы як чалавек прадпрыймальны, зарадны і хітры, які з кожнай сітуацыі выйдзе пераможцам. Да таго яшчэ Антон Казак — чалавек багаты. Бываюць такія месяцы, калі ён пры сваёй гаспадарцы дадаткова зарабіць 30 тысяч злотых, а то і больш.

Як вядома, жвір у нас — матэрыял даволі каштоўны. Дык вось, Антон Казак транспартуе яго на розныя будовы і зграбае грошыкі.

Што Антон Казак за гэтыя даходы не плоціць фінансаваму аддзелу ніякіх падаткаў, гэта ўжо іншая справа.

Якім жа чынам ён гэта робіць?

Вельмі проста. Завозячы жвір на месца, Антон Казак падае прозвішча таго ці іншага суседа з вёскі, атрымлівае грошы і... бывайце здаровы. Калі фінансавы аддзел прысылае наказы дахадовага падатку Антонавым суседзям, ён гэтым зусім не пераймаецца:

— Няхай сабе суседзі выкручваюцца, гэта мяне не абыходзіць. Найважнейшае, што грошы ў маёй кішэні.

Такія эксперыменты хітры Казак праводзіць ужо даўжэйшы час. А фінансавы аддзел відавочна не мае ніякага параграфа, каб прыцiснуць ім хітрага камбінатара.

(вб)





Як стацца бульдогам.






### НЕ ДАРУЕ

— Навошта табе, Ціхан, новая хата? Сам стары. Дзяцей няма. Памрэш і чужыя карыстацца будуць.

— Я перад смерцю хату прадам, — адказаў Ціхан.

Прыслаў **Ігнат Загулечны**

* * *

### РУКАВІЦА

— Што, твая рукавіцай кінула ў цябе?

— Так. І ўяві сабе, што нават забыла яе зняць з рукі.

Прыслаў **Васіль Кіндзюк**

* * *

### ЧАМУ

— Чаму, паеўшы селядцоў, піць хочацца?

— Бо селядзец — марская жывёліна, ён і ў страўніку не можа абыйсціся без вады.

Прыслаў **Г. Кірылюк**

• • •

### ЯК МАЛАНКА

— Як ты ездзіш матацыклам?

— Як маланка.

— Так быстра?

— Не, так зігзагамі.

Прыслаў **Віктар Баран**

### НА ЗАХАДЗЕ СОНЦА

**Надвячоркам**
**ад Асла**
**Пляма ценю**
**ўсё расла,**
**расла**
**І вырасла аж за вярсту.**
**— Ого!**
**Асёл сказаў, —**
**Расту!**

**Мікола ПАЛАТАЙ**



**— Ці вы не падглядаеце, доктар?**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Ольгі Шаралы** са Шчытоў - Дзенцялова, Бельскага павета; **Беларускі** з Беластока; **Яўгеніі Каліноўскай** з Азяблаў Беластоцкага павета; **Уладзіміра Магрука** са Шчытоў, Бельскага павета; **Тамары Дзянісюк і Любы Германюк** з Асоўкі, Гайнаўскага павета; **Расціслава Бірыцкага** з Семяноўкі, Гайнаўскага павета, і **Зіны Казлоўскай** са Скраблякоў, Беластоцкага павета, змяшчаем сучасную папулярную савецкую песню.

## БЕЛЫМ СНЕГОМ

Белым снегом, белым снегом
Ноч метельная всю стежку замела,
По которой, по которой
Я с тобой, любимый рядушком ишла.

Вспомни милый наши встречи
И слова любви, что ты мне говорил.
Почему ты те минуты
И часы свиданий наших позабыл?

Я страдала, ожидала,
Я ждала тебя, ждала тебя в ответ.
Только стежка пропадала,
След знакомый потеряла в далеке.

Белым снегом, белым снегом
Ноч метельная всю стежку замела,
По которой, по которой
Я с тобой, любимый рядушком ишла.



**— Сядайце. Паслухаем па радыё фізкультурную зарадку для школьнікаў.**

## Мімаходам

Бывае і так з некаторымі «законнікамі»: то ён сам «стаіць на варце» законнасці, то законнасць бярэ яго пад варту.

*

Спакуснік даверлівых жаночых сэрцаў меркаваў, што мараль патрэбна толькі ў байках.

*

Тое, што яго называлі вяльможам паўятовага маштабу, яго не засмучала. Засмучаў маштаб.

*

Закройшчык быў вопытны. Ён стараўся не краіць, а выкройваць.

**Л. Мытніцкі**

## Здагадлівы

Настаўнік да вучня:

— Чаму салавей, спяваючы песні, заплюшчвае вочы?

— Каб усе ведалі, што ён знае іх напамяць, — адказаў вучань.

Прыслала **Марыя Курыла**

# ПЕРАЦ

Аднойчы выпадак паставіў мяне ў чаргу. Не то, каб гвалтам увапхнулі мяне ў чаргу, а проста абставіны прымусілі.

Стаю, значыць, і прыслухоўваюся. А, як вядома, у чаргах аб розным расказваюць. Гэтага ў газетах не прачытаеш і на сходах не пачуеш.

Стаю за нястрыжанай патыліцай і цяжкую думу думаю. Дайду да прылаўка, ці не? Дастану, ці з фігай адыду?

Каб не распальваць цікавасці чытачоў, скажу, не скрываючы, стаяў я ў чарзе за англійскім перцам.

Як вядома, звычайны горкі перац ёсць, а араматнага перца няма. Не то, каб зусім не было, раз у год з'яўляецца; толькі людзі не ведаюць, у які дзень будзе ў продажу і ў якім месцы.

Вось стаю за гэтым маленькім, кругленькім перцам і хвалююся. Калі грамадзяне, якія стаяць перада мною, будуць браць перац на запас — для мяне не хопіць.

У самы разгар маіх перажыванняў, выходзіць з магазіна дзяўчына і канверцік з перцам разглядае.

— Выходзіць, даюць перчык, — гавару.

— Даюць па тры канверцікі, — адказвае дзяўчына.

Ад гэтых слоў адразу на душы адлягло. Людзі не разбяруць. І для мяне хопіць. Раптам зноў сэрца заміраць пачынае. Па тры пачачкі адпускаюць. У чарзе час марнуй, а атрымаеш з гульчын нос.

Тут падходзіць сімпатычная паненка і пытае:

— Вы апошні?

— Я сябе апошнім не лічу, — адказваю ёй, — але калі вы апошняга шукаеце, ахвотна ім буду.

— Я мела на ўвазе, што вы апошні ў чарзе, — апраўдваецца дзяўчына.

— І памыліліся, стаю я першым, толькі з другога канца, — адказваю і прапаную, — станавіцеся перада мной, мне проста прыемна будзе стаяць за паненкай сімпатычнай са ўсіх бакоў.

— Я не паненка, а замужняя, — гаворыць незнамая.

— Вось табе і на, а я гатоў быў халасцяком падставіцца.

Прапускаючы міма мае словы, дамачка пытае:

— Што, уласна кажучы, даюць у гэтай чарзе?

— Перац араматны, па тры канверцікі на нос, — адказваю.

— Няхай будзе і гэта, цяпер кожны выпадак трэба лавіць. Учора дастала селядцоў, пазаўчора лаўровы ліст, сёння дастану перац. Вось і селядцы замарыную.

— Маладая, але практычная, — не ўстрымаўся я ад пахвалы.

Дамачка пачырванела, апусціла вочкі, ад чаго ў яе затрапяталі вейкі, а ў мяне сэрца.

Потым дамачка сказала:

— Уявіце, майму сыну ўсяго паўгода, а ён ўжо сядзіць.

— За што сядзіць?! — крыкнуў я спачувальна.

Дамачка надзьмула губкі і адвярнулася.

Відавочна, чытачы нецярпліваяцца, аб другарадным расказваю, а аб галоўным — як з перцам — ні слова. Таіць не буду, дабраўся я ў чарзе да прылаўка, падае мне прадаўшчыца кілаграмовы мяшочак.

— Мілая мая, — кажу, — адсыпце чвэртку, за шмат для мяне гэтага перцу.

Прадаўшчыца паглядзела на мяне нейк дзіўна і адказвае:

— Я грэцкую кашу даю, за перцам была другая чарга, ды перац ужо вышаў.

Як вам гэта падабаецца, людзі добрыя? А дамачка, што стаяла перада мной, узяла і грэцкую кашу. Відавочна, для марынавання селядцоў.

*Дзядзька Лявон*

 